ISSN 0700–5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў**

ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Office: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2 U.S. address: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U.S.

Год 16 | Чырвень, 1990 | Нр. 2 (58)

## СЬВЯТА Ў МЕНСКУ

*72-я ўгодкі абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі*

*(ад нашага карэспандэнта)*




*Каля помніка Багдановічу. Голас народу...* Здымкі Ул. Скрабатуна

Апоўначы наш цягнік прыйшоў у Менск. Раніцою пытаюся: як даведацца, ці будзе сёньня мітынг з нагоды незалежнасьці Беларусі? — Схадзі на вуліцу Веры Харужай насупраць Камароўскага рынку, там звычайна БНФ вывешвае свае абвесткі, — парaілі мне.

Прайшоўшы частку вуліцы Веры Харужай, я знайшоў дзьве абвесткі БНФ, якія заклікалі на мітынг: "Увага! 25 сакавіка а 14 гадзіне на плошчы Леніна, каля Дому Ураду адбудзецца мітынг, прысьвечаны Дню абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі... Усе на плошчу Леніна!... У кожным вакне бел-чырвона-белы сьцяг!"

Прайшоўшы яшчэ па вуліцы, я завітаў да стэнду, дзе былі разьвешаныя газэты. У газэце "Звязда" быў артыкул "БНР: як гэта было". Гэты артыкул пачынаўся радкамі: "Як паведамлялася ўжо, выканком Мінскага Гарадзкога Савета Народных Дэпутатаў адмовіў гр. Пазьняку З.С., Хадыку Ю.В. і Марачкіну А.А. у прадстаўленьні плошчаў, вуліц і іншых грамадзкіх месцаў гораду для арганізацыі 25 сакавіка сьвяткаваньня "Дня незалежнасьці Беларусі"... Далей, амаль на ўсю "зьвяздоўскую" бачыну быў надрукаваны артыкул аб дыскрэдытацыі БНР. У кіёску купіў некалькі менскіх газэтаў: "Знамя юности", "Советская Белоруссия". Усе стракаталі ад артыкулаў з лаянкай на БНР і БНФ: "Ностальгия по прошлому", "Историю не переделать"... Іх ня чытаючы, можна ведаць што там напісана. Дастаткова паглядзець у канец артыкулу, кім ён падпісаны: член КПСС з 1925 году, вэтэран партыі, вайны й працы; Герой Савецкага Саюзу; доктор исторических наук, ветеран войны и труда... усіх 16 подпісаў, у кожнага тытул даўжэйшы, чым у расейскага цара.

Выйшаў я з дому на гадзіны дзьве раней да пачатку мітынгу. Па вуліцах, як звычайна, беглі трамваі, тралейбусы і аўтобусы, на некаторых былі рэклямныя напісы: "Юноши и Девушки! Спешите проявить себя на стройках Сибири и Дальнего Востока". На дрэвах зьявілася першая кволая лістота, было цёпла, хаця надвор'е пахмурнае, на газонах была даволі ладная зялёная трава, квітнелі кветкі. Нешта дужа зашмат у гэты час было на вуліцах міліцыянтаў. Каля Дому Афіцэраў я заўважыў два рады патрульных міліцэйскіх машын, якіх, пэўне, было ня менш за паўсотню, гатовых выехаць "на трывогу".

У палове другой гадзіны я падыйшоў да плошчы Леніна перад Дом Ураду. Там, дзе Ленінскі праспэкт зьліваецца з плошчай, з аднаго й з другога боку стаяла даволі шмат міліцыянтаў з мэгафонамі і рацыямі. Чакалі. Было ўжо бяз 25 хвілін 14 гадзін, але з дэманстрантаў яшчэ ніхто да плошчы не падыходзіў. Я ўжо пачаў непакоіцца, што дарма прыехаў у Менск, менавіта ў гэты дзень...

Праз колькі хвілінаў з вуліцы Валадарскага на праспэкт выйшла невялікая група людзей са сьцягамі. Міліцыянт мэгафонам зрабіў папярэджаньне: — На площадь никого с флагами не пускаем. Митинг запрещен! Адзін мужчына выйшаў з гэтае групы на праежджую частку праспэкту і пачаў размахваць бел-чырвона-белым сьцягам і на зло міліцыянту крыкнуў: - Жыве незалежная Беларусь! Затым гэтая група пайшла па праспэкце ў адваротным баку ад плошчы Леніна да помніка Янку Купалу. Я быў на другім баку праспэкту ды ўжо хацеў перайсьці на іхны бок, каб далучыцца да гэтае калёны, як бачу на маім баку праспэкту з бочных вуліцаў пачалі выходзіць даволі шматлікія калёны са сьцягамі, харугвамі, транспарэнтамі, якія быццам ручаіны зьліваліся ў раку, вялікую і поўнаводную. Ішлі юнакі й дзяўчаты, пад гітару сьпявалі песьню "Пагоня":

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, ймкнуцца і цяжка хрыпяць;
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць...

Ужо здалёку, падыходзячы да парку імя Янкі Купалы, я заўважыў, што ля помніка нашаму вялікаму паэту сабралася шмат люду таксама з морам бел-чырвона-белых сьцягоў, харугваў, транспарэнтаў. На адным з транспарэнтаў, на белым палотнішчы чырвонымі літарамі палацінску было напісана:



*Каля помніка Купалу. Выразна відаць павялічаная здымка першага ўраду БНР.*

VIVAT ALBARUSSIA LIBERTA!

Наша калёна далучыла да тэй, што ўжо тут сабралася крыху раней .Пачаўся мітынг. Прысутныя хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць загінуўшых змагароў за вольную й незалежную Беларусь. Нехта паклаў букет бел-чырвона-белых гваздзікаў ля помніка паэту — проста на стылізаваныя пялёсткі папараць-кветкі, што зробленыя тут з бронзы ў падножжы помніка. Выступалі паэты, пісьменьнікі, мастакі, жаночы гурт прасьпяваў песьню "Купалінка". Асабліва ўсім спадабаліся патрыятычныя песьні, якія пелі беларускія барды пад гітару. Прысутныя не адпускалі ўсеагульнага любімца — сьпевака, паэта й кампазытара Сяржука Сокалава-Воюша. Яго песьні краналі ўсіх да сьлёз. Пасьля адной песьні ён сказаў: — Прыйдзе час і гэтая гітара будзе ляжаць у музэі на самым бачным месцы.

Адзін з паэтаў прачытаў прысьвечаны Сокалаву-Воюшу верш, параўнаўшы яго са сьпеваком Віктарам Харай. Вядучая мітынгу паведаміла, што напярэдадні тэлефанавалі ў Злучаныя Штаты Данчыку, які сказаў, што "віншуе ўсіх са сьвятам ды ўсіх абдымае".

Я ніколі яшчэ ў жыцьці ня бачыў столькі народу — столькі народу, які размаўляе сваёй роднай мовай і ня проста сымбалічна, дзеля парадку, а сьвядома, згуртаваны агульнай ідэяй незалежнасьці й адраджэньня краю. Пасьля кожнай песьні, прамовы ці верша, раздаваўся вокліч выступаючага: "Жыве незалежная Беларусь!" А ў адказ — лес паднятых кулакоў і рэха: — Жыве!

Трэба сказаць, што на мітынгу было некалькі плякатаў напісаных пабеларуску лацінскім альфабэтам: 'BIEŁARUS SAVIECKAJA' BIEŁARUS BIAZ BUDUČYNI!', а таксама цытаты з Другой Устаўной Граматы БНР. Выступалі прадстаўнікі шмат якіх гарадоў Беларусі. Прадстаўнік Гародні сказаў, што "і ў нашым горадзе сёньня павінен быў адбыцца мітынг з нагоды абвешчаньня незалежнасьці Беларусі на пляцы Волі (плошчы Леніна), але гарадзкія ўлады таксама ня далі дазволу; ды мы ўсёроўна будзем сьвяткаваць".

Тут на мітынгу можна было набыць шмат якія газэты нефармалаў, значкі, вымпелы... Жанчына хадзіла са шклянай скрыняй і зьбірала ахвяраваньні на дапамогу Беларускаму Народнаму Фронту. Скрыня хутка напаўнялася чырвонымі дзясяткамі й сінімі пяцёркамі. Было некалькі прамоўцаў і зь іншых рэспублікаў. Выступаў Беларус зь Вільні. Пасьля яго выступленьня сквэр напоўніўся клічам: — Жыве незалежная Летува!

Некалькі хвілін мітынгу прысьвяцілі чалавеку, што пачаў сьвяткаваць Дзень Незалежнасьці некалькі гадоў раней, "чым усе, што тут сабраліся". Гаварылі пра студэнта Менскага

тэатральнага інстытуту Аляксандра Пушкіна — будучага мастака. Я не памыліўся, — ён цёзка па імені й прозьвішчу расейскага паэта. Колькі часу да пачатку збору ён выйшаў на праспэкт зь бел-чырвона-белым сьцягам і пайшоў проста пасярод праспэкту ў кірунку мітынгу. Яго арыштавалі міліцыянты і адвезьлі ў пастарунак. Выступаючая мовіла, што яна "тэлефанавала ў пастарунак і сказала, як за парушэньне дарожнага руху яго могуць аштрафаваць толькі на 10 рублёў, але яго ўсёроўна ня пусьцяць і невядома якую крамолу ў дадатак прыпішуць бо ён і да гэтага часу быў засуджаны на год умоўна, а цяпер могуць наогул пасадзіць у турму".

Потым было павядомлена, што ствараецца ініцыятыўная група, кабісьці ў пастарунак і патрабаваць ягонага вызваленьня. Праз колькі часу яна сказала, што ля фантану, за помнікам Купалу, такая група ўжо ствараецца, — але вы ніхто туды не хадзіце, бо, здаецца, нейкі кагэбэшнік пад выглядам стварэньня ініцыятыўнае групы запісвае прозьвішчы. Лепш мы ўсім мітынгам пойдзем на пастарунак патрабаваць ягонага вызваленьня.

Потым зноў нехта хадзіў тэлефанаваць і, здаецца, яго вызваляць, і ў гэтым ёсьць наша заслуга.

Побач са мною стаяла некалькі мужчын, што вялі гутарку пра А. Пушкіна. Адзін кажа сваім субяседнікам: — А ведаеце, у яго была мара прыехаць на мітынг са сьцягам, на белым кані, па прасьпекту... Тады -б напэўна яго арыштавалі разам з канём...

Мітынг у сквэры Купалы доўжыўся больш дзьвюх гадзінаў. Затым была зробленая прапанова йсьці да помніка Максіму Багдановічу, што ля Опэрнага тэатру. А гадз. 16.40 дэманстранты рушылі да помніка аўтару вядомага верша "Пагоня", які разам зь бел-чырвона-белым сьцягам і гэрбам Пагоняй даўно сталіся нашымі нацыянальнымі сымбалямі.

Тут таксама сьпявалі беларускія патрыятычныя песьні, чыталі вершы маладыя паэты і ўжо сталыя літаратары. Вельмі ўсіх узрушылі вершы маладога паэта з Магілёва, яго доўга не адпускалі з трыбуны, прасілі пачытаць яшчэ. Ён сказаў на пачатку свае прамовы: — Беларусы Ўсходняе Беларусі яшчэ не забыліся, што яны Беларусы!

Усе ягоныя вершы былі напоўненыя пафасам слаўнай мінуўшчыны Беларусі. Вось цытаты: "Дзе наша была слава і воля... Мы ніколі ў мінулым ня былі пасынкамі... Наша мова была дзяржаўнаю ў Вялікім Княстве..."

Чытала свае вершы адна сталая настаўніца ды прасіла прабачэньня, бо ўпяршыню чытае свае вершы такой вялікай грамадзе (ды можа ня так ладна напісана), але вершы ўсім спадабаліся. Затым зноў сьпяваў бард Сяржук Сокалаў-Воюш (цытую з памяці):

......стан дзявочы Белай Вежы,
подых ручая,
мы адной табе належым,
Беларусь мая.

Ягоны прагожы звонкі голас кранаў усіх і ніхто не зважаў на невялікі дождж ык. Са званіцы сьвятыні зь Верхняга гораду далятала мэлёдыя вячэрніх званоў, што зьлівалася ў унісон із песьняй.

Нейкая жанчына падыйшла да мяне й спыталася: — А каму гэта пастаўлены помнік? — Максіму Багдановічу, — адказаў я. — Вось я й думаю, — разважала жанчына, — чаго—б тут сабраўся народ ля помніка нейкаму Максіму Горкаму, як мне нехта недакладна вытлумачыў. Дарэчы, вы Беларус? — Так, — запэўніў я. Між іншых, гэтую песьню, якую цяпер сьпявае сьпявак, напісаў Багдановіч:

Маці родная, Маці-Краіна,
Ня усьцішыцца гэтакі боль!...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь.

Разам з усімі сьпяваў і я.

Мітынг закончыўся каля сёмай вечарам. Напасьледак Сяргей Сокалаў-Воюш "падзякаваў" міліцыянтам за тое, што "яны нас сьцераглі, каб ніхто нас не пакрыўдзіў і часам не пабіў"...

На заканчэньне вядучая сказала: — Наступны мітынг роўна празь месяц і будзе прысьвечаны сьвятым Кірылу й Мефодзію. Няхай дзяўчаты вышываюць кашулі сваім жаніхом... А заўтра, 26-га сакавіка, прыходзьце да Чырвонага касьцёлу са сьцягамі. Будзем патрабаваць, каб касьцёл вярнулі вернікам!

На наступны дзень, 26 сакавіка, увечары каля гадз. 17.30 я падыйшоў да касьцёлу сьв. Сымона й Алены (цяперашні Дом-кіно). Каля ўваходу ў колішнюю сьвятыню стаялі дзясяткі два каталікоў з запаленымі сьвечкамі ды чыталі нейкую каталіцкую малітву: "Сьвента Марыя, Матка Боска..." Тэлевізійнікі ладзілі сваю апаратуру, зьбіраліся нешта здымаць. Усе чакалі нейкага начальства. Пры недахопе часу, — ноччу я мусіў ад'яжджаць, — я рашыў абыйсьці касьцёл, палюбавацца ягонай прыгожай архітэктурай, створанай дойлідам Тамашам Пайздэрскім, ды ехаць мэтром да сваякоў, рыхтавацца да ад'езду.

З другога боку касьцёлу, каля ўваходу, што ад Дому ўраду БССР, я ўбачыў чалавек 50, якія ажыўлена гутарылі між сабою. На машце лунаў бел-чырвоны-белы сьцяг. Тут я прыгадаў адну вестку з газэты "ЛіМ", дзе пісалася, што вандэйцы гавораць: "Лепш дзеючы касьцёл, чым логава БНФ пад бокам Дому ўраду"... Я падыйшоў і рашыў паслухаць аб чым гавораць бээнэфаўцы. Сярод прысутных я заўважыў аднаго зь лідэраў Фронту Юрыя Хадыку, якога я пазнаў па здымках, што былі кагадзе зьмешчаныя ў "ЛіМе".

Адна група абмяркоўвала вынікі нядаўніх выбараў, другая гаварыла пра Аляксандра Пушкіна, а тая група, дзе стаяў Ю.Хадыка, абмяркоўвала падзеі ў Літве. Юры Хадыка казаў: — Толькі нацыянальна згуртаваная нацыя, як Літоўцы, змагла так хутка падыйсьці да абвешчаньня незалежнасьці.

Нехта ўмяшаўся ў размову і дадаў: — Пажылі-б яны столькі гадоў пад саветамі колькі мы, тады ці змаглі-б яны зьдзейсьніць сваю ідэю. Нам будзе шмат цяжэй...

Адзін высокі хлопец у бэрэце казаў: — Вось Фінляндыя. У царскай Расеі была самым закінутым кутком, не магла вылезьці з галечы. А цяпер яны ня ведаюць куды падзець свае тавары... А побач Карэлія, — як была бедная, так і засталася. А нашы "бульбяшы" зь Віцебскай губэрні, — Беларусы, у 1917 годзе, калі Фіны абвясьцілі незалежнасьць, — накіравалі Леніну ліст: "Як гэта можна адарваць Фінляндыю ад жывога цела Расеі!"... Напрыклад, узяць нашы Сьветлагорскія запасы нафты. Каб мы былі незалежныя ад Масквы й самі імі распараджаліся, то мы жылі-б ня горш чым тыя Аб'еднаныя Арабскія Эміраты ці Катар. Гэтыя запасы — адныя з буйнейшых у сьвеце. Ці вось павысілі налог за карыстаньне аўтадарогамі... А куды гэтыя грошы йдуць? На будаўніцтва дарог нячорназемнай часткі Расеі. А хіба ў нас дарогі лепшыя? Я вось увесну да дзеда не магу патрапіць, аўтабусы ня ходзяць...

Над Домам ураду, пабудаваным у 30-я гады архітэктарам Лангбардам у стылі канструктывізму, лунае зялёна-чырвоны бээсэсэраўскі сьцяг. Тут у гэтым доме ўладарыць Сакалоў, які ўсё яшчэ марыць пабудаваць "сьветлую будучыню — камунізм", у якую нават і самі камуністы ня вераць. А ля старога касьцёлу, забранага некалі бальшавікамі ад пабожных людзей, унае наш бел-чырвона-белы сьцяг. У гэтым будынку памяшчаецца штаб БНФ, дзе Зянон Пазьняк і ягоныя аднадумцы мараць пра новую, вольную і сапраўды сувэрэнную Беларусь. Такія розныя стаяць адзін проці другога будынкі — розныя стылі, розныя сьцягі лунаюць і такія розныя ідэі там жывуць...

Каля сьцяны касьцёлу стаяла некалькі стэндаў, абсталяваных БНФ, на якіх былі выняткі з газэтаў, дзе вандэйская прэса кляйміла БНФ; вісела некалькі рэлігійных абразоў (на адным — "Сабор Беларускіх Сьвятых"), вынікі выбараў, выбарчыя плякаты Беларусаў Беласточчыны — "Пра свае справы будзем гаварыць самі!", — і шмат чаго іншага. У БНФаўскім кіёску набыў невялікую кнігу Аўгена Калубовіча "Айцы БССР і іхні лёс", Варшава, 1988 г.

Так не хацелася на гэты раз ад'яжджаць зь Менску, ад столькі чутага й бачанага мною, што так вельмі мяне ўсхвалявала.

*Уладзімер Скрабатун*

# ФРАНЬЦІШАК БАГУШЭВІЧ

(*Да 150-х угодкаў нараджэньня*)



*Партрэт мастака М. Купавы*

21-га сакавіка сёлета мінула 150 год з дня нараджэньня аднаго з найбольш таленавітых беларускіх паэтаў, якія закладалі асновы беларускай літаратуры і аднаго з наймагутнейшых рухавікоў нашага нацыянальнага адраджэньня — Франьцішка Багушэвіча. Ён быў таксама адным зь першых беларускіх пісьменьнікаў, які выступіў у абарону роднай мовы й літаратуры. Таму на гэты аспэкт ягонае дзейнасьці й літаратурнае творчасьці і зьвернем нашую ўвагу, асабліва яшчэ таму, што наогул пра Багушэвіча і ягоную літаратурную спадчыну існуе ўжо багатая і даволі аб'ектыўная гістарычная літаратура, даступная нашаму чытачу.

Як вядома, захапіўшы ў канцы 18-га стагодзьдзя беларускія землі, Расея намагалася задушыць нацыянальныя пачуцьці Беларусаў, вытравіць у іх нацыянальную сьвядомасьць. Беларуская культура, мова й літаратура глуміліся царскімі вялікадзяржаўнымі шавіністычнымі ўладамі. У 1840 годзе, калі нарадзіўся Ф. Багушэвіч, царскі ўказ забараніў нават ужываць тэрмін "Беларусь", замяніўшы яго "Паўночна-заходнім краем". Такім чынам Беларусь сталася геаграфічным тэрмінам і ня мела асобнага этнаграфічнага значэньня. Расейскі ўрад і цесна зьвязаныя зь ім польскія нацыяналісты імкнуліся прыпыніць разьвіцьцё беларускае культуры, асымілёўваць Беларусаў, прышчапіць ім здрадніцкую думку аб іхнай быццам духовай няпоўнацэннасьці.

Усьведаміўшы ўсё гэта, Франьцішак Багушэвіч сьмела й рашуча ўзьнімаецца на абарону права беларускага народу на самастойнае культурнае і гістарычнае разьвіцьцё. Разумеючы дакладна, што літаратура — найлепшы сродак для руху масаў да гістарычнае актыўнасьці, абуджэньня іхняй нацыянальнай і грамадзкай сьвядомасьці і пашырэньня вызвольных ідэяў, ён галоўную ўвагу зьвяртае на літаратуру. Таму ўжо ў вядомых прадмовах да першых сваіх зборнікаў лірыкі ён дамагаецца шырокага разьвіцьця беларускай літаратуры. Багушэвіч будзіць у сваіх суродзічаў нацыянальную сьвядомасьць. Ён асуджае "вялікіх паноў" за пагардлівыя адносіны да роднай культуры, мовы, літаратуры, нацыянальных звычаяў. Ён пратэстуе супраць нізкапаклонства перад чужой культурай, якім хварэлі вярхі тагачаснага беларускага грамадзтва.

Асабліва-ж вялікае значэньне надаваў Багушэвіч нацыянальнай мове, як аднаму з найважнейшых сродкаў будаўніцтва нацыянальнае культуры. У сваіх прадмовах да "Дудкі беларускай" і "Смыка беларускага", якім суджана было адыйграць важную ролю ў разьвіцьці беларускай грамадзкай думкі і мастацкай літаратуры, Багушэвіч з пачуцьцём нацыянальнае гордасьці гаворыць пра высокія вартасьці беларускае мовы, яе шматвяковую гісторыю, ейныя багатыя і слаўныя традыцыі. У "Прадмовах" ён асабліва паставіў пытаньні разьвіцьця беларускай нацыянальнай мовы, якую называлі "мужыцкай" і якую зьняважалі, над якою зьдзекаваліся і якую дыскрэдытавалі. Багушэвіч рашуча паўстае супраць гэтых пагардлівых адносінаў да беларускае мовы, заяўляе на ўвесь сьвет, што "наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная!" Ён ваюе з тымі, хто стварыў міт аб духовай няпоўнацэннасьці беларускага народу, ягонае мовы, на якой нібыта "нічога добрага ні сказаць, ні напісаць няможна". Ён пасьлядоўна змагаецца за рэгабілітацыю роднае мовы, за павышэньне ейнага аўтарытэту ў вачох суродзічаў.

Як слушна адзначае беларускі літаратуравед Васіль Барысенка ў сваёй манаграфіі "Франьцішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры 19-га стагодзьдзя", выдадзенай у 1957 годзе: "Багушэвіча глыбока непакоіла тая акалічнасьць, што пагардлівыя адносіны да беларускай нацыянальнай мовы і культуры, якія так старанна на працягу доўгага часу культываваліся прыгоньнікамі, пранікалі ў асяродзьдзе беларускай інтэлігенцыі і адсталыя пласты народу".

"Вялікія і малыя народы, — пісаў Багушэвіч, — маюць на сваёй мове кніжкі й газэты, багатую і разнастайную літаратуру, а ў нас як-бы захацеў цыдульку, ці да бацькі лісток напісаць пасвойму, дык можа-б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што піша "памужыцку" і як дурня абсьмяялі-б!"

Ідучы ўсьлед за Кастусём Каліноўскім, Багушэвіч горача бараніць правы беларускага народу на самастойнае культурнае і гістарычнае разьвіцьцё. Ён імкнецца абудзіць пачуцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці ў сваіх суродзічаў, прывіць ім любоў і павагу да роднае мовы, нацыянальнае культуры. Ён асуджае і дакарае тых сваіх суродзічаў, якія, страціўшы пачуцьцё нацыянальнае годнасьці, цураюцца роднае мовы. Ён мае мужнасьць і пераконанасьць, каб заявіць на ўвесь голас, што беларуская мова — гэта мова шматмільённага народу з багатымі гістарычнымі традыцыямі. "Нас-жа ня жменька, а з шэсьць мільёнаў..." — заяўляе паэт. У гэтых словах адчуваецца глыбокая вера Багушэвіча ў высокім прызваньні беларускага народу, ягоных здольнасьцях да творчасьці і сацыяльнага прагрэсу

Адначасова ён імкнецца абгрунтаваць і законнае права на разьвіцьцё роднае мовы, права беларускага народу на стварэньне сваёй нацыянальнай культуры і тым самым на сваё існаваньне. Ён быў адным зь першых, які зразумеў, што ад нацыянальнае мовы залежыць і існаваньне беларускага народу, як асобнай нацыі, таму кідае заклік: "Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!", заклік, які, на жаль,

вельмі актуальны й сяньня. Таму мяркуем, што будзе мэтазгодным пазнаёміць нашых чытачоў з поўным тэкстам "Прадмовы" Багушэвіча да першага зборніка вершаў "Дудка беларуская", што выйшаў у Кракаве ў 1891 годзе, пад псэўданімам Мацей Бурачок.

**»Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя »мужыцкай» завуць, а завецца яна »беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша — »мужыцкая » мова і толькі таго. Але, паздароў Божа добрых людцаў, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з тэй пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў, і пераканаўся, што мова наша ёсьць такая-ж людзкая і панская, як і француская, або нямецкая, або і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў, па дзьвесьце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, як-бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: Божа, мой Божа! Што-ж мы за такія бяздольныя?! — Якаясь маленькая Балгарыя — са жменю таго народу, — якіесь Харваты, Чэхі, Маларусы і другія пабратымцы нашыя і розныя чужыя маюць пасвойму пісаныя і друкаваныя кніжачкі і газэты, і набожныя, і сьмешныя, і сьлёзныя, і гісторыйкі, і баечкі, і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як-бы захацеў цыдулку ці да бацькі лісток напісаць пасвойму, дык можа-б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што »піша памужыцку», і як дурня асьмяялі-б! А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць ні напісаць няможна? Ой, не! Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым—жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусьцілі яе на зьдзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць пафранцуску, як пасвойму. Нас-жа ня жменька, а з шэсьць мільёнаў — больш і шмат больш як Жыдоў, напрыклад, або Татар, ці Армян, а пакажы-ж, ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гэспадарцы, ці так аб жыцьці нашым, каб панашаму?**

**Ці-ж ужо нам канешне толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсьць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касьцей! А пісаць ёсьць шмат чаго.**

**Спрадвеку, як наша зямелька зь Літвой злучылася, як і з Польшчай зьядналася дабравольна, дык усе яе »Беларусяй» звалі і недарма-ж гэта! Не вялікая, не малая, ня чырвоная, ня чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася.**

**Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананьнем, катораму мову займае, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото-ж гаворка, язык і ёсьць адзежа душы.**

**Ужо больш як 500 гадоў таму, да панаваньня князя Вітэнэса на Літве, Беларусь разам зь Літвой баранілася ад крыжацкіх напасьцяў і шмат местаў, як Полацак, прызнавалі над сабой панаваньне князёў літоўскіх, а посьле Вітэнэса літоўскі князь Гедымін злучыў зусім Беларусь зь Літвой у адно сільнае каралеўства і адваяваў шмат зямлі ад крыжакоў і ад другіх суседаў. Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днестра ракі да Нёмана; ад Каменьца места аж да Вязьмы, у сярэдзіне Вярікаросіі; ад Дынабурга і за Крамянчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!**

**Можа хто спытае: гдзе-ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Менск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»**

**Мацей Бурачок**

Выступленьне Франьцішка Багушэвіча ў абарону роднае мовы дало штуршок разьвіцьцю беларускай мастацкай літаратуры. Але Багушэвіч не абмяжоўваўся паэтычнай дзейнасьцяй. Ён марыў і аб стварэньні беларускай граматыкі, змагаўся за выпрацоўку адзіных нормаў літаратурнай мовы. Адначасова ён узьнімае найбольш важную з усіх праблемаў — праблему самога існаваньня народу і зьвязвае яе зь неабходнасьцю захаваньня роднае мовы, з заданьнем стварэньня сваёй культуры і літаратуры.

Для абгрунтаваньня сваіх паглядаў паэт, як мы бачылі на прыкладзе "Прадмовы" да "Дудкі беларускай", спасылаўся на гісторыю беларускага народу. Ён імкнуўся скіраваць свой погляд у той пэрыяд, калі наш народ стварыў сваю выдатную культуру і літаратуру, меў сваю дзяржаўнасьць. На канкрэтных гістарычных фактах зь мінулага ён выхоўваў высакародныя патрыятычныя пачуцьці. Супрацьстаўленьне далёкай слаўнай мінуўшчыны тагачаснай рэчаіснасьці дапамагала змагацца за ажыцьцяўленьне пастаўленай мэты — абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу. А заклік Багушэвіча шанаваць родную мову, ягонае змаганьне за абуджэньне ў народзе нацыянальнай сьвядомасьці — ня што іншае, як адраджэньне ў новых умовах і ў новай форме вызвольных ідэяў "Мужыцкай Праўды" Кастуся Каліноўскага.

*Язэп Барэйка*

## *ТАЎКАЧЫ І ДЫНАЗАЎРЫ...*

**Polacy**

**Wyniki spisu ludności na Wileńszczyźnie, czyli na terenie Litwy, która była przed wojną częścią Państwa Polskiego mieszka 920 000 osób z czego 46 % - Litwinów, 26 %- Polaków. W samym Wilnie Litwinów jest 51 % a Polaków 19 %. W okolicach Wilna mieszka 37 % Litwinów i 39 % Polaków oraz 124 % Rosjan i 5 % Białorusinów. Polacy na Wileńszczyźnie stanowią najwięjszy grupę narodowościową.**

'Express', Toronto, nr 129, 14 luty, Tygodnik Polonii oraz Białorusinów, Litwinów i Ukraincòw.

Адбітку гэтае цытаты даём з називанае газэты, каб ніхто ня прыпісаў нам памылак "Экспрэсу". Калі такія таўкачы-няўмекі бяруцца выдаваць часапіс для Палякаў "ораз" Бялорусінаў, Літвінаў і Украінцаў (графаманы зь вялізнай амбіцыяй палітыканаў!) дык ідзе пра іхную звычайную няпісьменнасьць — 124% Рос'ян, (памылка друку?) — а ўжо пра тое, што там Палякаў ажно 39% (паводля формулы, што кажны каталік — Паляк), дык ведайце зь якога "мяродайнага зьрудла" гэтыя падлікі-пералікі ідуць...

*А цяпер і голас з "Голасу Радзімы", за 22.3. 1990. Артыкул "Ці ўбачым апошняга папа?" Гутарка з упаўнаважаным савета ў справах рэлігій, Аляксеем Жыльскім:*

— Аляксей Іванавіч, вас не турбуе праблема кадраў?

— Турбуе, і яшчэ як! Імклівы рост рэлігійных таварыстваў намнога апярэдзіў магчымасьці падрыхтоўкі духоўных кадраў. Тым больш, што сэмінарыі ў Беларусі ня было.

— Але каталікі вырашаюць гэту праблему вельмі проста. Яны запрашаюць у свае парафіі ксяндзоў з Польшчы. Як вы да гэтага ставіцеся?

— Мяне гэта вельмі непакоіць: мы ня можам разглядаць каталіцкі касьцёл у Беларусі як нейкі прыдатак зарубежнай царквы. На нашу думку, раз ужо ёсьць каталіцкая епархія ў Беларусі, то біскуп, які пастаўлены Ватыканам на чале яе, павінен вырашаць свае праблемы напрамую, а не праз пасрэдніцтва польскага япіскапату ці якога іншага. Мы разумеем, што ў Беларусі ёсьць частка насельніцтва польскай

## Віншуем Летувісаў, Латышоў і Эстонцаў!
## НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ АДНОЎЛЕНЫЯ НЕЗАЛЕЖНЫЯ БАЛТЫЙСКІЯ РЭСПУБЛІКІ!
## *НЯХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ У ЗМАГАНЬНІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ!*

нацыянальнасьці. Але, папершае, ня ўсе Палякі католікі, а, падругое, ёсьць частка Беларусаў католікаў. Польскія-ж ксяндзы, якія прыяжджаюць да нас на прыватныя запросіны і правяць службу ў нашых касьцёлах, паводзяць сябе не як госьці: як кажуць, ідуць "у чужы манастыр са сваім уставам".

Ёсьць прыкрыя сьветчаньні, калі польскія ксяндзы лічаць, што ў Беларусі сярод католікаў павінны быць такія парадкі, як і ў Польшчы. Быў такі выпадак у Глыбокім. Запрасіла туды супольна ксяндза з Польшчы. Прыехаў, правёў першую службу і заявіў, што яму не патрэбныя ні касьцельны камітэт, як у нас прынята, ні рэвізійная камісія, ні казначэй. Буду сам вырашаць усе пытаньні, ні зь кім не раячыся. Самі веруючыя сказалі, што такі ксёндз, які будзе тут наладжваць свае парадкі, як некалі на "крэсах", ім непатрэбны.

Ёсьць паасобныя ксяндзы, чыя дзейнасьць выходзіць за рамкі душпастырства, рэлігіі, калі закранаецца палітычная арыентацыя грамадзтва, закранаюцца інтарэсы дзяржавы. Мы ня маем юрыдычнай асновы для таго, каб вось так, явачным парадкам, запрашаць ксяндзоў на службу ў касьцеле прыватным чынам. Я лічу, што нашыя "кадравыя праблемы" мы павінны вырашаць самі.

— Напэўна, у гэтым вам дапаможа Закон аб свабодзе сумленьня, які павінен быць прыняты Вярхоўным Саветам СССР. Што вы чакаеце ад яго?

— Закон будзе называцца: "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях". Я азнаёміўся ўжо з трыма варыянтамі праекту гэтага закона. Мая думка: закон добры. Ён улічвае і сучасны ўзровень разьвіцьця права, і ўвогуле перабудовы дзяржаўна- царкоўных адносінаў, гуманізацыі нашага грамадзтва. Важна, што ён адпавядае і міжнароднаму праву."

Пажывём, убачым...

На нашай памяці, у 1918 годзе, на тэрыторыі новапаўсталай Беларускай Народнай Рэспублікі, польскія ксяндзы баламуцілі нашых каталікоў, сталіся авангардам польскіх 'bojowek', што памаглі варшаўскім захопнікам падзяліць БНР з Маскалямі ў Рызе. І цяпер, як выглядае, польскія ксяндзы імкнуцца ў Беларусь, каб аднаўляць тут сваю "карону", палянізаваць нясьведамы на руінах бальшавізму й гаротны, паранены Чарнобылем і тысячамі Курапатаў народ... А гэтта, на эміграцыі, розныя таўкачы з таго-ж самага кодла "кароны" заклікаюць нас, Беларусаў, да супрацоўніцтва...

Лёнданскі "Дзеньнік польскі і дзеньнік жолнежа" (14.3.1990) прадаўжае рэпартаж (10) "Весьці з Крэсаў Усходніх РП". Мяркуеце, што можа пішуць пра Падляшша ці якую Люблiншчыну? Ды не. Там жыве цяпер звыш паўмільёну Беларусаў, але ужо цяпер "рдзэнна Польска".

У гэтым артыкуле ўводзіць чытачоў газэты ў сьвет крэсовых дыназаўраў Рычард Чарнэцкі. Аказваецца, што бальшыня замардаваных нявінных у менскіх Курапатах гэта... Палякі. Адкуль-жа яны? "Зь Меншчыны, забранай у 1921 г. сілай Рыскага Трактату, ды зь Віленшчыны й Наваградчыны, заанэксаваных у гадах 1939-1940."

Далей, згадваючы, што вызначаны Рымам для Менску й Гародні новы біскуп Тадэвуш Кандрусевіч ёсьць Палякам і служыць у касьцеле папольску, пан Рычард Чарнэцкі перабіраецца ў Менск. Даведваемся, што "будынак менскай катэдры... ізноў пасьвяцілі ў 1943 г.", але бальшавікі, пасьля "вызваленьня", яе закрылі.

"Адтуль, аж да году 1980, на землях, што ляжаць на ўсход ад граніцы польска-савецкай з 1921 году ня было аніводнага дзейнага каталіцкага касьцёла..., на гэтых земляхаграмадная часьць жыхароў была польская і каталіцкая. Такой яна і засталася. Сяньня дачакалася свайго біскупа. "Свайго" дарэчы трэба разумець даслоўна. Ён ёсьць адным зь іх, цярпеў зь імі, разам змагаўся ў абароне таго, што найбольш каштавала: веры й прывязанасьці да польскасьці".

Рычард Чарнэцкі базуе сваю пісаніну на вестках "прасы краёвай, польскай у Саветах, эміграцыйнай і Агенцыі Ў сходняй". Аўтар абураецца, што Летувісы не дазваляюць у віленскай катэдры польскім біскупам і іншым маліцца папольску ("70% жыхароў Віленшчыны гэта — 'насі краяне'").

А колькі-ж Палякаў жыве ў бэсэсэрыі (ня ў этнаграфічнай Беларусі)? Згодна перапісу з 12 студзеня, 1989 г., на агульную колькасьць 10 мільёнаў 200 тысяч жыхароў было 403 тыс. Палякаў. Бязумоўна, у гэным ліку ёсьць Палякі, але няма сумлеву, што "палякамі" акупацыйны рэжым пазначыў пераважна каталікоў. Маскалём і крэсовым дыназаўрам залежыць, каб шматпакутны беларускі народ ніколі не падняўся з каленяў рабства.

## КАЛІ ВЫ, ЛЮДЗІ, У БОГА ВЕРЫЦЕ, ТО ДЗЕ ВАША СУМЛЕНЬНЕ?

Наша дарагая, зьняможаная, Чарнобылем ці не сьмяротна параненая Бацькаўшчына
абамлелымі рукамі матак
атручанымі арганізмамі іх дзетак
кліча на помач і нас, дзяцей з раськіданых Маскоўшчынай гнёздаў, па цэлым сьвеце которыя жывуць.

І мы намагаемся, зьбіраем патрэбныя сродкі, заклікаем-гукаем сваіх суродзічаў і прыяцеляў зь іншых народаў на помач.

І зь вялікім болем пільна сочым агонію-немач чарнобыльскіх ахвяраў, молімся да Ўсявышняга, каб зьмілаваўся й памог нашаму вялікаму народу.

Чуем, што ў Беларусі аднаўляюцца зруйнаваныя варварамі сьвятыні, народ вяртаецца да Бога.

Актывізуецца каталіцкі касьцёл, Папа Рымскі назначыў новага пастыра.

Дзякуй Богу!

І мы, і вы, усе мы супольна й паасобку мяркуем, спадзяёмся, што сьвятары адноўленых сьвятыняў пабягуць-пасьпяшаць параненаму Чарнобылем народу на помач. А як-жа накш? Сьвятары-ж — слугі божыя, яны напоўненыя любоўю да бліжняга, асаблівай міласэрнасьцю да хворых і пакрыўджаных. Яны-ж, — так мяркуеш, — будуць клікаць усіх на помач ахвярам Чарнорбыля, самі пасьпяшаць у першыя шэрагі з дапамогай...

Яны павінны...

Так іх Хрыстова слова вучыць...

А што-ж яны робяць?

Ды яны заядла, зь вялікім энтузіязмам адбудоўваюць "на крэсах" польскія касьцёлы! У Берасьці такі ёсьць. Ён называецца, — паверце, людзі божыя! — сьвятыняй Маткі Боскай , Каралевы Кароны Польскай. Дальбог! І сьвятар і парафіяне ягоныя надта-ж занятыя працай, каб прысьпешыць той час, каб некалі ў будучыні тая "карона польская" сюды вярнулася.

Іхная-ж галоўная ўвага і заўзятасьць цяпер падпрэжаныя на навучаньне малітваў папольску й катэхізму парасейску. І яны адурманьваюць дзетак, беларускімі маткамі роджаных, якім ані польская, ні расейская мова ня ёсьць роднымі.

Дзе ўжо ім, каторыя "польскую карону" хочуць пашырыць і разам зь дзярлівай птушкай сюды прывалачы, пра ахвяры Чарнобыля думаць!

У Менску ёсьць два каталіцкія сьвятары (адзін на пэнсіі), каторыя больш палянізацыі Беларусаў, чымся Богу, сілаў аддаюць ды мясцовых людзей баламуцяць.

У Курапатах моляцца суродзічы й родныя сотняў тысячаў некалі закатаваных нявінных... Але два менскія каталіцкія сьвятары, што баламучаньнем сваіх вернікаў на польскасьць і адбудовай "пшэдмужа хшэсьціянства" занятыя, у Курапаты ніколі не заглянулі. І чарнобыльскім ахвяроам не памагаюць. Дальбог, праўда!

Памнажыце вось такіх берасьцейскіх і менскіх служкаў "Марыі Панны, крулёвай кароны польскай" дзясяткі й сотні разоў. Яны рассыпаліся па жывым целе зьняможанай чужынцамі й сьмяротна параненай Чарнобылем Беларусі. Яны бянтэжаць, канфузяць, баламуцяць беларускі народ. Заміж слова божага й цяпер нагвалт патрэбнай мэдычнай помачы ахвярам Чарнобыля, яны хлусьню прагавітага суседа і яд нянавісьці да беларускага народу сеюць.

Хочацца крыкнуць: людзі, — калі вы ёсьць людзі, носьбіты веры Хрыстовай, — апамятайцеся! Як вам ня сорамна!?

*К. Акула*




Беларусы са сьцягам і плякатам.

## УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ



У чацьвёртыя ўгодкі Чарнобыльскай катасрофы адбылася дэманстрацыя і малебен перад будынкам Антарыйскага Парляманту ў Тароньце. Каля польнага аўтара — украінскія ярархі і сьвятары і Першаярарх Беларускай Аўтакефальнай Царквы Архіяпіскап Мікалай. Пры мікрафоне прамаўляе ад Беларусаў др. Раіса Жук-Грышкевіч.

Здымкі К. Акулы

## АСІПЧЫК ПАМАГАЎ І НАМ

Сёлета 14 сакавіка ў Ню Джэрзы ЗША памёр Аляксандар Асіповіч-Асіпчык. Нарадзіўся ў Слоніме ў 1909 г. На эміграцыі быў шыракаведамы як царкоўны дзеяч і надзвычайна ахвярны чалавек. У прыватнасьці, калі паўстала ідэя скліканьня Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў, у Манчэстары ў 1974 годзе, ён першы пасьпяшыў нам з дапамогай маральнай і грашовай. У далейшым шчодра падтрымліваў матар'яламі й грашовымі даткамі "Зважай". У тыя часы, калі наш вэтэранскі часапіс быў толькі што спавіваны, такая помач была абсалютна неабходнай. За Ягоную ахвярнасьць у працы для Беларускага Народу, Нябожчык заслужыў нашу ўдзячнасць. Вечная Яму памяць!

*"Зважай"*

## ЦЫТАТЫ

**Часам, у злыя гадзіны, я нават ня ведаю, ці люблю я Беларусаў, да якіх маю гонар належаць. За бязьмежную цярпімасьць да таго, да чаго ня трэба, за тое, што яны занадта сумленныя...»** Колькі горычы ў гэтых радкох У. Караткевіча!

*Юры Станкевіч, "Спадчына Прамэтэя", "Маладосьць", нр. 12, 1989 г.*

"Степень нравственной деградации общества проявляется особенно резко в том, как ведут себя его лучшие представители, его поэты, писатели, пророки. Нет спору, и в самой развращенной среде всегда были, есть и будут праведники. Но к числу их далеко не всегда относятся те, кто воспевает праведников, бичует пороки и ратует за чистоту нравов.

За примерами ходить недалеко. Вспомним хотя бы, как Чингис Айтматов , автор "Белого прохода" — замечательной повести, рисующей вечный мир красоты и высших духовных ценностей, осуждающий трусость и предательство, — когда "оттепель" сменилась заморозками, подписал письмо, направленное против Александра Исаевича Солженицына. Под аналогичным документом поставил свое имя и другой поборник высокой морали — Василь Быков."

*Мария Шнеерсон, "Континент", нр. 62, 1990*

## У ЛЁНДАНЕ

Наведаў я Лёндан пры канцы сакавіка. Быў тут апошні раз у 85-м, калі сьвяткавалі 500-я ўгодкі нарадзінаў Франьцішка Скарыны. Менскія навукоўцы падмаладзілі Скарыну на 5 годі цяпер тоесамае сьвяткуюць.

Гэтта шмат не зьмянілася. Адно айцец Алесь Надсан вярнуўся зь Менску. Завёз помач ахвярам Чарнобыля, пры помачы Беларускага Народнага Фронту здаў у паліклініку для дзетак у Менску й Бараўлянах. Выступаў там на ТВ, у Інстытуце Мастацтва й Фальклёру. Адправіў, пры вялікім удзеле імшу ў каталіцкай сьвятыні на Кальварыі, сустракаўся з выдатнымі дзеячамі ад моладзі, навукоўцамі, палітычнымі дзеячамі. Сталіца прывітала яго галасамі вялікай групы моладзі і старшых зь бел-чырвона—белымі сьцягамі на вакзале. Усюды сустрэў надзвычайную гасьціннасьць, зычлівасьць. Казаў на дакладзе ў Лёндане падчас сьвяткаваньня дня незалежнасьці БНР 25-га сакавіка, што становішча помачы ахвярам Чарнобыля катастрафальнае. Вандэя (менскія сталіністы) нічога ня робіць, няма ведаў, прыладаў, кампэтэнтнага для лячэньня чарнобыльскай радыяцыі й хваробаў пэрсаналу.

За помач, якую а. Надсан прывёз для хворых суродзічаў з вольнага сьвету нафашысьціла яму й Беларускаму Народнаму Фронту (пэўне-ж па загаду Вандэі) ведамая Бумажкова ў "Вячэрнім Мінску". Праўда, журналісты з таго самага "Вяч. Мінска" і старшыня БНФ, цяпер пасол Беларускага парлямэнту З. Пазьняк далі сталіністам за гэта належны адпор...

Быўшы ў Лёндане прыемна было пачуць, што адлучылі Беларусь ад маскоўскага часу (перасунулі гадзіну назад), ды што сьвяткавалі дзень абвешчаньня БНР 25.3. у парку Янкі Купалы, нягледзячы на вандэйскую забарону. У парлямэньце зьявілася добрая апазыцыя, якую даў БНФ, дзякуючы пераважна працы моладзі, якая шукае Бога, змагаецца за адраджэньне й незалежнасьць Беларусі.

У лёнданскай бібліятэцы Ф. Скарыны шмат матар'ялу, які мяне проста паглынаў. А гэтта за вакном, на чубе прыгажуні скандынаўскай хвоі сарокі гняздо робяць. У ўсходняй Канадзе сарок няма. Дык разумееце чаму й сарокі мне мілыя, я іх ад юнацтва ня бачыў. І шпакі тут такія, як у Беларусі, а ня гэткія вялікія і пражорлівыя, як у Тароньце. Люблю птушак, прыглядаюся ім у цудоўны, напоўнены вясной дзень у паўночна-лёнданскім парку. А тут і навіны ад палітыкаў, што "імпэрыю зла" перабудоўваюць, і скарбы бібліятэкі. Аж галава шуміць.

Бяру з полкі нешта навосьлеп. Акты гарадзенскага суда з 1540 году, выданыя Віленскім Цантр. Архівам. Чытаю справу нр. 483 на бачыне 178: "Заявление о неявке к присяге. Попъ Новодворский Климентъ зъ жидомъ Хацкомъ. Месяца Сен(тебра) у (30) день, ин(дикта) 14, у четвергъ по светом Станиславе. Оповедался мне попъ Новодворский светого Миколы Климентъ, што которую присягу описано было у выроку королевое ее милости нашое господарыни жиду Новодворскому Хацку у четвергъ, который былъ передъ светымъ Михаломъ, въ день светого Матея, а светого Матея трафилося было быти во второкъ, а не въ четвергъ, и жидъ готовъ былъ ку присязе, нижли не тымъ обычаемъ, яко попъ хотелъ, бо попъ хотелъ жебы присегнулъ на десятеро Божьи приказаньи, а жидъ поведилъ ижъ у выроку господарыни ее милости описано присягнути, взявшися за ретезъ, и о том межи ними споръ былъ ажъ до вечора; ...."

Бачыце, продкі нашыя паважныя справы й клопаты мелі, мо куды больш сур'ёзныя за нашы...

А сарокі, — праз вакно бачу, — саліднае гняздо канчаюць. І ў іх клопат: будова. Праўда, можа не такі, як у тых, што пры траскучай "галоснасьці" робяць "перабудову"...

Life is unfolding as it should...

*К.Акула*

## У СПРАВЕ ІМІГРАЦЫІ Ў КАНАДУ

Атрымліваем лісты ад суродзічаў з розных краінаў з просьбамі, каб памаглі ім іміграваць у Канаду. У сувязі з гэтым выясьняем: ані Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў, ані ягоны часапіс "Зважай" ніколі ня ставілі сваёй мэтай займацца справамі іміграцыі ў Канаду. На гэта ня было ў нас і няма ані сродкаў, ані часу. Зацікаўленым эміграцыяй у Канаду раім зьвяртацца па інфармацыі да нашых амбасадаў у тых краінах дзе пражываеце.

*"Зважай"*

## МАСКВА ПРЫЗНАЛАСЯ

Сёлета перад прыездам польскага прэм'ер-міністра Мазавецкага на візыту, Масква, паведамленьнем ТАСС, прызналася, што пад вясну 1940 году ў Катыні НКВД (цяперашняе КГБ) замардавала тысячы польскіх афіцэраў, узятых у палон у верасьні 1939 году. Пасьля гэтага польскі лідар "Салідарнасьці" Лех Валэнса выказаўся, што трэба прыцягнуць да адказнасьці злачынцаў Катыню. Гэта азначала-б пачатак працэсу, каб прыцягнуць да адказнасьці і ўсякіх іншых злачынцаў маскоўскай каляніяльнай імпэрыі, дый ня толькі "ціхіх пэнсіянераў", але й масу тых, што сяньня сядзяць пры ўладзе ...

Паводле польскіх крыніцаў, у Катыні загінула адно 4 тысячы польскіх афіцэраў (між імі былі й Беларусы).

На пытаньне, дзе былі вымардаваныя яшчэ 11 тысяч афіцэраў, Масква дагэтуль не дала адказу.

### ФОНД »ЗВАЖАЙ»

**Ад 20-га студзеня да 10-га травеня сёлета на »Зважай» атрымана: Г.Шайпак [з продажы] — 38.40 дал., М.Скабей — 18.00, М. Нікан — 9.00, Г. Шайпак — 9.00, Г. Шайпак [з прысланых раней але памылкова нязьмешчаных у справаздачы] — 47.00,, А. М. — 5.00, В. Грыцук — 10.00, Сенька — 20.00, Баяроўскі — 40.00, Я.Саяковіч — 40.00, А. Зданкавіч — 40.00, Б. Рагуля — 5.00, Ул. Брылеўскі — 29.00, Р. Беразоўскі — 20.00, М. Раецкі — 18.00, Р.Жук-Грышкевіч — 10.00, М. Наўмовіч — 24.00, В.Акавіты 32.00, К. Акула [з продажы] — 15.00, Я. Сажыч — 29.00.**

*Разам — 558.40 дал. Усім за помач дзякуем!*

**УВАГА! УВАГА!**

Выйшла з друку кніга А. Мяльгуя і В. Мартыненкі "Праз рок-прызму" (220 бачынаў і каля 70 здымкаў). Аўтары, што жывуць у Менску, апісваюць аснаваную на беларускім нацыянальным груньце і беларускамоўную рок-музыку, што цешыцца посьпехам між моладзі й памагае адраджэньню народу. Там-жа нас знаёмяць і з выдатнымі кампазытарамі ды выканальнікамі ня толькі рок-музыкі.

Гэтую цэнную працу выдаў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Цана ў Злучаных Штатах — 25 даляраў, у Канадзе — 30 даляраў. Замаўляць у "Зважай", або ў БІНіМ: 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J., 07070, U.S.

SUŠVIETNAJA SUSTREČA BIEŁARUSAŬ
adbudziecca sioleta
ŭ Połacku, kala Cleveland, štatu
Ohio
u dniach 1 - 3 vieraśnia

Pa infarmacyji žviartacca da Biełaruska-Amerykanskaha Zadzinočannia abo Zhurtavańnia Biełarusaŭ Kanady